Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 550.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ



Серада, 3 чэрвеня 1998 г. № 58 Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Графік паламаўся: Антановіч застаецца ў Мінску

**Турнэ міністра замежных справаў Івана Антановіча ў краіны Паўднёвай Амерыкі — Аргенціну і Уругвай — сарвалася.**

Як сцвярджаюць у МЗС, міністр змяніў свой графік проста напярэдадні адлёту 30 траўня, бо «ўзніклі тэрміновыя пытанні». Сцвярджаецца, што Іван Антановіч павінен узмоцнена «прабіваць» візіт прэзідэнта Лукашэнкі ў Егіпет, а таксама паездку на сусветны эканамічны форум у Кран-Мантана (Швейцарыя). Узніклі нейкія цяжкасці, перадолець якія магчыма толькі з дапамогай дыпламатычнага вопыту міністра. Сапраўды, толькі моцны вецер мог змяніць узяты Іванам Антановічам курс у напрамку паўднёваамерыканскіх шыротаў. Візіт у Аргенціну і Уругвай рыхтаваўся вельмі клапатліва і шырока рэкламаваўся. Міністр Антановіч меўся правесці там цэлы тыдзень.

Некаторыя аглядальнікі звязваюць рэзкую перамену ў графіку Антановіча з яго магчымым перамяшчэннем на іншую пасаду.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Паганяйлу зрабілі «неліцэнзійным»

**У адваката Гары Паганяйлы адабралі адвакацкую ліцэнзію. Такое рашэнне ўчора прыняла камісія міністэрства юстыцыі.**

Кваліфікацыйную камісію ўзначальвае намеснік міністра Галаванаў, у яе склад уваходзяць адвакаты, прадстаўнікі судоў, пракуратуры і нават Савета бяспекі. Усе гэтыя «законнікі» і вырашылі, што Гары Паганяйла — бадай адзіны беларускі адвакат, якога ведаюць за межамі краіны, — не заслугоўвае права займацца адвакацкай дзейнасцю.

*«Праваабаронцы сённяшняй уладзе непатрэбныя. Уладзе патрэбен адвакат паслухмяны, некваліфікаваны і несумленны. Аднак наўрад ці гэтыя якасці будуць карыстацца попытам у кліентаў, сярод якіх усё больш людзей, чые правы парушае менавіта дзяржава»,* — гэтак пракаментаваў рашэнне мінюста Гары Паганяйла. Ён збіраецца вяртаць сваю ліцэнзію праз суд.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Кожны дзесяты – смертнік

**Больш за 4.300 злачынстваў учынена ў гэтым годзе ў Брэсцкай вобласці; 1.700 з іх — цяжкія.**

Як паведаміў пракурор вобласці Валерый Амельянюк, у апошнія гады на Брэстчыне назіраецца імклівы рост злачыннасці: толькі за пяць месяцаў гэтага года ўчынена 57 наўмысных забойстваў — лічба, амаль роўная колькасці забойстваў за ўвесь 1989 год. Калі летась судамі вобласці было асуджана 130 чалавек, пяцёра з якіх прыгавораны да расстрэлу, то з пачатку гэтага года ўжо асуджана 77 чалавек, да вышэйшай меры пакарання прыгавораныя сямёра з іх.

*БелаПАН*

# Луканоміка

«Беларускі эканамічны цуд», пра які апошнім часам горда заяўляюць нашыя ўлады, заінтрыгаваў заходніх спецыялістаў.

Аглядальнік адной з самых аўтарытэтных газет свету *The Wall Street Journal* Мэцью Камінскі, зрабіўшы аналіз эканамічных паказчыкаў Беларусі, даў усяму гэтаму ёмістую назву — ***«луканоміка».***

«Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, відаць, ніколі не атрымае ўзнагароду «Міжнароднай Амністыі» за абарону правоў чалавека. Аднак за чатыры гады кіравання яму ўдалося дамагчыся нечуванага эканамічнага росту ў сваёй дзяржаве, — пачынае артыкул М.Камінскі. — Беларусь заяўляе аб 10-працэнтным эканамічным росце, у той час як Расія выцягнула толькі на кволыя 0,4%. І гэта пры тым, што Беларусь цяпер застаецца адзінай постсавецкай дзяржавай, якая не атрымлівае дапамогі Міжнароднага валютнага фонду».

Эканамічная мадэль Лукашэнкі, піша *The Wall Street Journal*, базуецца на льготных крэдытах і напампоўванні пустых грошай у эканоміку. За часы кіравання першага беларускага прэзідэнта крэдытаванне калгасаў і заводаў падвоілася. Інфляцыя ў 1996 г. была яшчэ 39%, а за 1997 год, нягледзячы на кантроль росту цэнаў, падскочыла да 63%. На дзяржаўны сектар прыпадае ажно 87% выпуску прадукцыі.

«Луканоміка», лічыць М.Камінскі, — гэта гібрыд старой сістэмы цэнтралізаванага планавання з некалькімі механізмамі сучаснага рынку. Цалкам верагодна, што ў выніку яна прывядзе да таго ж хранічнага дэфіцыту тавараў і прыхаванай інфляцыі, якія ў свой час разбурылі Савецкі Саюз.

Між тым беларускі «бацька» самымі жорсткімі метадамі ўзяў усе рычагі эканомікі ў свае рукі. Урад кантралюе пяць найбуйнейшых банкаў краіны. Улада поўнасцю перайшла да прэзідэнта. Ягоная адміністрацыя фінансуецца з свайго ўласнага засакрэчанага бюджэту і трымае пад кантролем, акрамя іншага, унутраны і знешні гандаль і нават курсы валютаў. *The Wall Street Journal* цытуе словы С.Багданкевіча: *«У нашай краіне капіталізм створаны вакол персоны аднаго чалавека».*

З дапамогай дзяржаўных банкаў Лукашэнка арганізаваў крэдытаванне сельскай гаспадаркі, жыллёвага будаўніцтва і некаторых сектараў прамысловасці па стаўках, значна ніжэйшых за інфляцыю. Не дзіўна, што пры такім шчодрым прытоку грошай 88% прадпрыемстваў адрапартавалі аб росце. Праўда, эканамісты адзначаюць, што дзяржава патрабавала ад дырэктараў завышэння статыстыкі, каб вынікі адпавядалі запланаваным «вытворчым заданням».

Крытыкі рэжыму лічаць, што дні «луканоміі» злічаныя. Танныя крэдыты і льготныя ўмовы гандлю з Расіяй пазбаўляюць мясцовыя прадпрыемствы стымулаў да рэфармавання і канкурэнтаздольнасці на сусветным рынку. Высокая інфляцыя і застылыя валютныя курсы — гэта сведчанне будучай бяды, папярэджваюць эканамісты. Тым не менш, як адзначае С.Багданкевіч, узгадваючы колішнія поспехі БССР, *«Беларусь даволі моцная краіна, і таму працэс можа расцягнуцца на дзесяцігоддзе».*

«А беларускі ўрад ігнаруе ўсе папярэджанні. Маўляў, Захад ужо пяць гадоў прадказвае крызіс у Беларусі, а крызісу дагэтуль няма», — канстатуе аглядальнік *The Wall Street Journal.*

*Падрыхтавала*
**Алена СУРКО**



*У дарагіх сталічных крамах ёсць выбар тавараў. Купіць іх могуць вельмі нямногія.*

### *Супрацоўніцтва*

***У Кітаі распачата будаўніцтва першага сумеснага прадпрыемства з удзелам беларускага капіталу. Фірма «Сянцзян—Волат» будзе выпускаць звышпраходныя грузавікі, 30% кампаніі належыць Мінскаму заводу колавых цягачоў.***

### *Бежанцы*

***48 былых бежанцаў з Афганістана і Эфіопіі першымі ў Беларусі атрымалі статус бежанцаў за перыяд з 3 лютага 1997 года па 1 чэрвеня 1998 года. Гэта ў асноўным дзяці-сіроты з Афганістана, якія пасля заканчэння школ-інтэрнатаў вучыліся ў мінскіх тэхнікумах.***

***(Працяг тэмы на стар. 2)***

### *Дзеці*

***Сёння ў Беларусі 23.618 дзяцей-сірот — у паўтара раза больш, чым у пасляваенным 1946 годзе. Штогод каля 1.500 дзяцей звяртаюцца па дапамогу супраць дыскрымінацыі і насілля з боку равеснікаў і дарослых.***

# Ці дапаможа Масква Севярынцу?

**Шэсце і мітынг у падтрымку палітзняволеных Паўла Севярынца і Аляксея Шыдлоўскага правялі 1 чэрвеня ў Мінску актывісткі жаночага руху «Адраджэнне Айчыны». Сваю акцыю яны спецыяльна прымеркавалі да міжнароднага Дня абароны дзяцей. «Для маці ўсе дзеці роўныя, незалежна ад узросту», — казалі жанчыны.**

У шэсці ад плошчы Я.Коласа да Опернага тэатра, дзе адбыўся кароткі мітынг, удзельнічала няшмат — каля 150 чалавек. Дэманстрантаў, якія неслі плакаты з патрабаваннем вызваліць палітычных вязняў, традыцыйна суправаджалі аператыўнікі ў цывільным. Праўда, на гэты раз яны нікога не затрымлівалі, а толькі актыўна здымалі на відэа.

На мітынгу выступілі лідэр жаночага руху Тацццяна Ваніна, маці Паўла Севярынца Тацццяна і іншыя жанчыны. Яны патрабавалі ад уладаў спыніць палітычныя рэпрэсіі супраць дзяцей і скасаваць прымусовае накіраванне выпускнікоў ВНУ ў забруджаныя пасля Чарнобыля зоны, бо і без таго хворых дзяцей з кожным годам становіцца ўсё больш. Гучалі і патрабаванні даць дзецям магчымасць вучыцца на роднай мове і спыніць уціск дабрачынных арганізацыяў, што займаюцца дзіцячым аздараўленнем.

Самі маладыя патрабавалі вызваліць сваіх зняволеных сяброў. Аднак улады гэтых просьбаў не чуюць. Учора гарадская пракуратура працягнула тэрмін знаходжання Паўла Севярынца ў турме яшчэ на месяц. Тым часам вызваліць лідэра Маладога Фронту патрабуюць і расійскія палітыкі. Так, дэпутат расійскай Дзярждумы Генадзь Янкоўскі звярнуўся ўчора да генеральнага пракурора Беларусі Алега Бажэлкі з просьбай дазволіць яму сустрэцца з Севярынцам у турме. Дэпутат хоча азнаёміцца з умовамі ўтрымання Паўла і даведацца пра здароўе. У сваёй заяве расійскі парламентарый адзначае, што факт знаходжання ў турме лідэра Маладога Фронту вядзе да ўзмацнення ў Беларусі антырасійскіх настрояў, што наносяць шкоду міждзяржаўным адносінам паміж дзвюма краінамі.

Як паведаміў НАВІНАМ сам сп.Янкоўскі, ён збіраецца сістэматычна інфармаваць расійскіх дэпутатаў аб парушэнні правоў чалавека і палітычных рэпрэсіях у Беларусі. Па словах Янкоўскага, гэтую ініцыятыву падтрымліваюць многія ягоныя калегі з фракцыяў «Расійскія рэгіёны» і «Яблоко».

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

*P.S. Дэпутацкая група Мінскага гарадскога Савета «Статус», якая аб'ядноўвае дэпутатаў дэмакратычнай накіраванасці, таксама звярнулася да пракурора Мінска Міхаіла Купрыянава з хадайніцтвам аб змене меры стрымання для Паўла Севярынца на больш мяккую, не звязаную з арыштам.*

## Пад Талачыном збіраюць вугаль

**На перагоне Слаўнае ў Талачынскім раёне Віцебскай вобласці працягваецца ліквідацыя наступстваў чыгуначнай аварыі.**

У мінулую пятніцу ў першай палове дня сышоў з рэек грузавы цягнік. 9 вагонаў з вугалем, які накіроўваўся з боку Масквы на Мінск, трапілі пад адхон. У выніку больш за 630 тонаў вугалю рассыпаліся. Паліва збіраюць па сённяшні дзень. Чыгуначнікі падлічылі, што аварыя нанесла ўрон больш чым на 400 мільёнаў рублёў, давялося аднаўляць 75 метраў каляіны, адну апору кантактнай сеткі.

Пасажырскія цягнікі былі пушчаныя ў аб'езд, а нармальны рух аднавілі толькі позна вечарам. Прычыны чарговай чыгуначнай аварыі высвятляе транспартная пракуратура. Паводле папярэдняй версіі, у аднаго з вагонаў была пашкоджаная калёсная пара. Калі гэта пацвердзіцца — расійскі бок павінен будзе кампенсаваць усе страты і заплаціць штраф.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Аўкцыён без таргоў

**У панядзелак у Гродне адбыўся чарговы аўкцыён, на якім выстаўлялася на продаж камунальная маёмасць. Таргі, аднак, не адбыліся.**

На 5 прапанаваных аб'ектаў паступіла ўсяго адна заяўка. Паказальна, што аўкцыён праходзіў якраз пасля таго, як улады правялі ў сталіцы з'езд прадпрымальнікаў, каб прадэманстраваць, што яны дбаюць пра развіццё бізнесу.

**С.А.**

## Бойся першых грыбоў

**Пяцігадовы хлопчык з вёскі Кнышэвічы Светлагорскага раёна памёр, з'еўшы першых у гэтым сезоне грыбоў.**

Атруцілася таксама яго старэйшая сястрычка, але лекарам удалося выратаваць жыццё дзяўчынкі. Незадоўга да гэтай трагедыі з дыягназам атручвання грыбамі ў рэанімацыі апынуліся яшчэ чацвёра жыхароў той жа вёскі Кнышэвічы — маці і трое дзяцей.

**А.Н.**

# Маладая Грамада не хоча ў войска

**Тэатралізаваную акцыю супраць абавязковага прызыву ў армію правядуць заўтра на мінскай плошчы Якуба Коласа актывісты Маладой Грамады.**

Сталічныя ўлады ўжо далі дазвол на яе правядзенне. Маладыя сацыял-дэмакраты патрабуюць увядзення ў Беларусі альтэрнатыўнай службы. У праграме мерапрыемства, якое пачнецца а 17-й гадзіне, прадугледжаны конкурсы, розыгрышы прызоў, а таксама рок-канцэрт.

А ў Пухавіцкім раёне Мінскай вобласці маладая публіка не такая. Супраць службы ў войску яны ніяк не выступаюць, затое напрыканцы мінулага тыдня маладыя хлопцы (некаторыя з сяброўкамі) наведаліся ў брыгаду спецыяльнага прызначэння міністэрства абароны, што ў Мар'інай Горцы. Падчас арганізаванага мясцовымі ўладамі і ваенным камандаваннем Дня прызыўніка ім паказалі шмат цікавага.

Язэп СІНІЦКІ



*На здымку: прызыўнікі аглядаюць баявую тэхніку.*

# Чыноўнікі расчынілі дзверы для бежанцаў

**З 1 чэрвеня ў Беларусі пачалася рэгістрацыя хадайніцтваў аб прызнанні замежных грамадзянаў бежанцамі.**

Як паведаміў намеснік начальніка ўпраўлення па справах бежанцаў пры міністэрстве працы А.Бубіч, іншаземцы, якія жадаюць атрымаць статус бежанца ў Беларусі, з 1 чэрвеня могуць звяртацца ў аддзелы міграцыйнай службы аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама. На заяву замежныя грамадзяне павінны атрымаць адказ на працягу трох месяцаў. На гэты перыяд ім будзе выдавацца часовы дакумент, які засведчыць законнасць іхняга знаходжання ў Беларусі.

*«У сувязі з тым, што ў нашай краіне дагэтуль не створаны пункты часовага пражывання бежанцаў, пытанні рассялення кожнаму з іх давядзецца вырашаць самастойна»*, — адзначыў А.Бубіч. З атрыманнем пасведчання бежанца замежныя грамадзяне могуць разлічваць, як сказаў А.Бубіч, *«на пэўны ўдзел абласных міграцыйных службаў у іх працаўладкаванні і рассяленні»*.

Іншаземцу, які падаў хадайніцтва аб прызнанні яго бежанцам, можа быць адмоўлена ў шэрагу выпадкаў, у тым ліку, калі ён меў магчымасць атрымаць гэты статус у іншых краінах, у якіх пражываў да прыезду ў Беларусь, або мог выехаць у трэцюю краіну, у якой мае блізкіх сваякоў. Бежанцам у Беларусі не можа стаць і той, хто нелегальна выехаў са сваёй краіны або ўчыніў там злачынства непалітычнага характару.

Па папярэдніх звестках, з 1 чэрвеня 1995 года — пачатку дзеяння Закона аб бежанцах — у краіне зарэгістравана каля 32.000 замежных грамадзянаў, якія прэтэндуюць на атрыманне статусу бежанцаў. *«Аднак час прайшоў, і колькі гэтых людзей рэальна засталося ў краіне, цяжка сказаць»*, — заключыў А.Бубіч.

*БелаПАН*

# «Паштовы тэрарыст»

**Шчучынская вертыкаль апошнім часам не тое каб была ў паніцы, але пабойваецца. А гэта перашкаджае думаць пра нарыхтоўку кармоў і павышэнне надояў.**

Гродзенскае абласное КДБ днямі таямніча паведаміла, што шукае «паштовага тэрарыста». Ён дасылаў па пошце пагрозы «тэрарыстычнага кшталту» наконт аднаго кіраўніка Шчучынскага райвыканкама. Дзіўна, аднак, што свае лісты невядомы накіроўваў не асабіста чыноўніку, а ў «рэспубліканскія і абласныя органы ўлады і кіравання».

З паведамлення КДБ, аднак, зусім не вынікае, што аматара паштовых пагрозаў злавілі. Навошта ж чэкістам было раскрываць свае карты раней часу?

Алег ІВАНОЎ

# Турма на мяжы выбуху

**«У следчай турме Магілёва склалася крытычная сітуацыя», — лічыць палкоўнік Галавачэнка, намеснік кіраўніка Магілёўскай абласной міліцыі па выкананні пакаранняў.**

Ён звярнуўся да мясцовых уладаў з лістом, у якім заклікае прыняць тэрміновыя захады па выпраўленні сітуацыі. Турму пабудавалі ў 1979 годзе, і з тых часоў яна ніколі не рамантавалася, за прайшоўшыя амаль 20 гадоў ні разу на гэта не выдаткоўваліся сродкі. Турма была разлічаная на 900 чалавек, а ўтрымлівае цяпер 1.450. 550 зняволеных папросту не маюць спальных месцаў і вымушаныя спаць на бетоннай падлозе. Абсталяванне камер патрабуе рамонту ці замены.

Сярод тых, хто сядзіць за кратамі гэтай турмы, каля 200 чалавек ужо асуджаныя. Астатнія — знаходзяцца пад следствам, а значыць, фармальна невінаватыя, бо злачынцам назваць чалавека можа толькі суд.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

# Хто дапаможа маладым інвалідам?

**Маладыя людзі-інваліды не могуць знайсці сабе працу — нават тыя, хто мае нармальны інтэлект і дастатковы ўзровень адукацыі.**

Прадстаўнік рэспубліканскага маладзёжнага аб'яднання «Некст Стоп — Нью Лайф» Дзмітрый Кісялёў паведаміў, што *«усе спробы працаўладкавання хаця б аднаго з 120 інвалідаў, якія звярнуліся да нас за падтрымкай, завяршаюцца безвынікова вось ужо на працягу двух месяцаў»*. Па яго словах, гэтыя маладыя людзі часам не маюць магчымасці нават пракарміць сябе, хаця практычна кожны з іх валодае пэўнымі прафесійнымі навыкамі і жаданнем працаваць. *«Нават тыя працадаўцы, якія мелі вакантныя месцы на сваіх вытворчасцях і напачатку выказалі жаданне супрацоўнічаць, хутка адвярнуліся ад нас»*, — заўважыў Д.Кісялёў.

Як паведамлялася раней, аб'яднанне «Некст Стоп — Нью Лайф» у пачатку сакавіка гэтага года пачало рэалізацыю праекта «Выйсце» па сацыяльна-псіхалагічнай рэабілітацыі маладых людзей з прыроджанай альбо набытай інваліднасцю. Фінансуюць праект міжнародных фондаў *«Counterpart»* і Дзіцячы хрысціянскі фонд. *«Улады раёнаў сталіцы адмовіліся бясплатна прадаставіць аб'яднанню неабходныя памяшканні, і нам няма дзе займацца творчай працай з маладымі людзьмі»*, — адзначыў Дзмітрый Кісялёў. Аб'яднанне «Некст Стоп — Нью Лайф» звяртаецца да ўсіх працадаўцаў краіны з просьбай аказаць дапамогу маладым людзям-інвалідам.

*БелаПАН*

# Лета пачалося з галадоўкі

**У панядзелак вядомы прадпрымальнік, дэпутат Андрэй Клімаў абвясціў галадоўку.**

Галадоўку А.Клімаў распачаў ужо другі раз — у знак пратэсту супраць незаконнага арышту і ўтрымання ў Мінскім следчым ізалятары, дзе ён знаходзіцца з 11 лютага. Калі першая галадоўка (якая, у адрозненне ад цяперашняй, была «сухой») пачала пагражаць ягонаму жыццю, маці ўгаварыла Андрэя спыніць гэтую акцыю.



На мінулым тыдні А.Клімаў накіраваў генеральнаму пракурору афіцыйную заяву пра галадоўку з 1 чэрвеня, пасля чаго ягоныя маці і жонка звярнуліся з просьбаю даць ім спатканне, каб перапканаць Андрэя адмовіцца ад гэтага кроку. Па словах Таццяны Клімавай, жонкі арыштаванага, следчы А.Кужаль адмовіў, сказаўшы: «Няхай сабе галадае».

За амаль 4 месяцы, якія Клімаў знаходзіцца пад вартаю, на ягоную думку, следства не прасунулася ні на крок. Сам дэпутат прынцыпова не дае ніякіх паказанняў (бо арыштавалі яго незаконна — насуперак Канстытуцыі, якая гарантуе дэпутатам недатыкальнасць). Але па справе, як стала вядома Клімаву, даўно ўжо не праводзіцца ніякіх допытаў. Тым часам яго трымаюць у турме.

Адвакатка В.Страмкоўская звярталася ў судовыя інстанцыі ўсіх узроўняў (ад раённага да Вярхоўнага суда) і ў рэспубліканскую пракуратуру з заявамі аб змяненні Клімаву меры стрымання і скаргамі на парушэнне канстытуцыйнага права дэпутата. На гэта яна або атрымлівала стандартныя адмовы (маўляў, усё ў межах закона), або ёй наогул не лічылі патрэбным адказваць. Урэшце адвакатка накіравала зварот у Камітэт па правах чалавека ААН.

Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ

# Катэхізіс ад Багданкевіча

**У санкт-пецярбургскім выдавецтве выйшла кніга прафесара Станіслава Багданкевіча — старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі.**

Выданне кніг партыйных кіраўнікоў стала традыцыяй яшчэ ў савецкую эпоху. Але цяпер часы змяніліся (хаця і не надта), партыяў стала шмат, і выказванне сваёй пазіцыі перастала быць прэрагатывай выключна прыхільнікаў «генеральнай лініі». Кніга Багданкевіча — наскрозь апазіцыйная.

Кніга пабудаваная накшталт катэхізіса: падабрана 100 пытанняў (аб'яднаных у тэматычныя групы), на якія аўтар дае разгорнутыя адказы. Сама назва кнігі — «Як жылі? Як жывём? Як будзем жыць?» — сведчыць пра тое, што гэтыя пытанні тычацца розных сфераў жыцця. Улічваючы, што С.Багданкевіч — прафесар эканомікі, які чатыры гады ўзначальваў Нацыянальны банк, — натуральна, што ўхіл робіцца ў эканамічную і, у прыватнасці, у фінансавую праблематыку (розныя там інфляцыя, манетарызм, бюджэт, інвестыцыі і г.д.). Што ж, цяперашні стан нашай грашовай сістэмы і ўвогуле эканомікі насельніцтва адчувае на сабе, — і было б няблага, каб кніга дапамагла людзям разабрацца ў прычынах гэтага стану.

Але Багданкевіч зусім не абмяжоўваецца толькі эканамічнымі праблемамі. Як лідэра палітычнай партыі, яго цікавіць шырокі спектр пытанняў — сацыяльныя, прававыя, знешнепалітычныя (у прыватнасці, стасункі з Расіяй) і інш. А паколькі партыя, якую ён узначальвае, з'яўляецца ліберальнай — на першае месца Багданкевіч ставіць правы і свабоды чалавека. Ролю дзяржавы лідэр беларускіх лібералаў увогуле зводзіць да наступнага: *«стварыць умовы, каб чалавек сваёю працаю мог забяспечыць сабе дастойнае жыццё і пры гэтым быў бы абаронены ад злодзея, гвалтаўніка і забойцы»*. Умяшальніцтва дзяржавы ў эканоміку павінна быць зведзенае да мінімуму.




Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ

# Федэрацыя футбола супраць Аляксандра Лукашэнкі

**У панядзелак выканаўчы камітэт Беларускай федэрацыі футбола не прыняў адстаўку прэзідэнта БФФ Яўгена Шунтава. Супраць прагаласавалі 17 з 18-ці членаў выканкама.**

Як вядома, на мінулым тыдні прэзідэнт Лукашэнка правёў спецыяльную нараду, на якой паабяцаў кіраўнікам беларускага футбола «месца ў самым лепшым следчым ізалятары». Ён таксама загадаў Мінскаму гарадскому і абласному выканаўчым камітэтам узяць пад сваю апеку сталічныя клубы «Дынама» і «Дынама-93» і тэрмінова выплаціць футбалістам зарплату, якую тыя не атрымлівалі 5 месяцаў.

Аднак, бадай, самае скандальнае было ў тым, што Лукашэнка загадаў прэзідэнту БФФ Яўгену Шунтаву напісаць заяву аб звальненні (аналагічная пагроза прагучала і на адрас віцэ-прэм'ера У.Замяталіна, міністра спорту М.Ананьева і ягонага першага намесніка С.Цяцерына). Шунтаў паслухмяна напісаў заяву аб адстаўцы, а на ягонае месца часова быў прызначаны Вадзім Жук. Аднак, паводле статута БФФ, адстаўку прэзідэнта павінен зацвердзіць выканкам федэрацыі.

Магчыма, тое і адбылося б. Аднак праз дзень пасля нарады ў Лукашэнкі Шунтаву давялося трымаць справаздачу ў Кішынёве — на паседжанні бюро УЕФА. Кіраўнікі еўрапейскага футбола былі абураныя фактам прамога ціску дзяржавы на дзейнасць спартыўнай грамадскай арганізацыі, якой з'яўляецца БФФ. Генеральны сакратар УЕФА Герхард Айгнер заявіў: *«Для нас не існуе іншага прэзідэнта, чым той, якога выбрала футбольная грамадскасць Беларусі. Мы даўно знаем Яўгена Шунтава, у яго моцнае здароўе і ён выдатна можа справіцца са сваімі абавязкамі»*. Умяшальніцтва дзяржаўных органаў у справы БФФ можа пацягнуць за сабой адпаведныя санкцыі, аж да выключэння Беларусі з міжнародных спаборніцтваў, — папярэджвае УЕФА.

Такім чынам, адчуўшы падтрымку еўрапейскіх структураў, выканкам Беларускай федэрацыі футбола (натуральна, пры таемным галасаванні) выступіў супраць волі Лукашэнкі. Супраць адстаўкі Шунтава выказаліся і многія кіраўнікі клубаў вышэйшай лігі. Калі над беларускім футболам навісла небяспека ізаляцыі ад міжнароднага спорту, футбольныя функцыянеры і практыкі сталі на абарону свайго лідэра.

Хочацца спадзявацца, што яны зрабілі гэта з меркаванняў прафесіяналізму і грамадзянскай годнасці.

Міхась ПАТАПОВІЧ

# Канстытуцыя гарантуе, чыноўнік ігнаруе

**Расійскі Фонд у абарону галоснасці выступіў з заявай, у якой выказваецца рашучы пратэст у сувязі з грубымі парушэннямі беларускімі ўладамі міжнародных абавязацельстваў і канстытуцыі Беларусі ў галіне свабоды друку.**

У заяве прыводзяцца канкрэтныя выпадкі, якія сведчаць, што дакумент пад назвай «Аб узмацненні контрпрапаганды выступленняў апазіцыйнай прэсы» дзейнічае. Нагадаем, што гэты дакумент, распрацаваны ва ўрадзе ў канцы сакавіка згодна з інструкцыяй з адміністрацыі прэзідэнта, забараняе службовым асобам прадастаўляць інфармацыю незалежным СМІ. Прыводзяцца, напрыклад, наступныя выпадкі.

Карэспандэнту газеты НАВІНЫ было адмоўлена ў інфармацыі аб выніках візіту кіраўніка дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Аляксандра Паўлоўскага на Украіну. 16 красавіка віцэ-прэм'ер Леанід Козік адмаўляўся размаўляць з карэспандэнтамі Гомельскага рэгіянальнага бюро тэлебачання і радыё да таго часу, пакуль не пераканаўся, што гэтае бюро прадстаўляе дзяржаўныя СМІ. 30 красавіка кіраўнік аддзела па сацыяльных праблемах, грамадскіх сувязях, палітычных партыях і СМІ Гомельскага аблвыканкама Міхаіл Ігнаценка адмовіў у акрэдытацыі карэспандэнту незалежнага агенцтва БелаПАН Ірыне Макавецкай і карэспандэнту газеты «Товарищ» Мікалаю Бандарэнку на 8-ю сесію Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі. Пры гэтым ён спаслаўся на інструкцыі, атрыманыя ад супрацоўніка адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Нярonскага.

У сваёй заяве Фонд у абарону галоснасці цытуе артыкул 34 новай рэдакцыі беларускай канстытуцыі, у якім гаворыцца: *«Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на атрыманне, захаванне і распаўсюджванне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў... Дзяржаўныя органы, грамадскія аб'яднанні, службовыя асобы абавязаны прадаставіць грамадзяніну Рэспублікі Беларусь магчымасць азнаёміцца з матэрыяламі, якія закранаюць яго законныя правы і інтарэсы».*

*БелаПАН*

# Украінскі паэт будзе пісаць пра Беларусь

**Напрыканцы мінулага тыдня ў Мінску з рабочым візітам знаходзіўся намеснік старшыні Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Барыс Алейнік.**

Па ініцыятыве фракцыі «левых» са згоды старшыні ПАСЕ Лені Фішэр украінскі дэпутат знаёміўся з унутрыпалітычнай сітуацыяй у Мінску. Сваю справаздачу пра паездку ў Беларусь Алейнік плануе падрыхтаваць да чэрвеньскай сесіі Парламенцкай асамблеі.

Б.Алейнік сустрэўся з прэзідэнтам Лукашэнкам, кіраўнікамі «кішэннага» парламента, міністрам замежных спраў Іванам Антановічам. Акрамя афіцыйных асобаў, з ім гутарылі прадстаўнікі апазіцыі — старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч, в.а. старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі і іншыя.

Падчас сустрэчы з кіраўніцтвам Народнай Грамады Б.Алейнік парэкамендаваў сацыял-дэмакратам «змяніць свае адносіны да ўлады на менш радыкальныя». Аднак С.Багданкевіч спадзецца, што ў савецкія часы украінскі пісьменнік-камуніст «дасць аб'ектыўную ацэнку сітуацыі ў Беларусі». Ён распавёў Алейніку пра цэнзуру ў дзяржаўных СМІ і немагчымасць для апазіцыянераў працаваць па прафесіі. Выйсце з крызіснай сітуацыі ў Беларусі лідэр АГП бачыць у правядзенні свабодных выбараў. Падчас сустрэчы С.Багданкевіча з Б.Алейнікам прысутнічаў пасол Украіны.

Нагадаем, што пасля ліквідацыі законнага парламента ў нашай краіне Савет Еўропы прыпыніў статус Беларусі як «спецыяльна запрошанай» у гэтай уплывовай еўрапейскай структуры.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Россия ищет свободы от слова

**Единственный на сегодня показатель, по которому Россия хоть как-то приближается к мировым стандартам либерального рыночного гражданского общества, — это свобода прессы.**

К такому выводу пришли участники завершившегося в Москве конгресса Международного института прессы (МИП). Впрочем, в данном случае речь шла об отсутствии государственного контроля. Однако главной темой форума была проблема независимости средств массовой информации от хозяев. Тон разговора задал президент России, выступивший на открытии: Борис Ельцин с горечью сообщил, что собственники частных средств массовой информации открыто вмешиваются в редакционную политику, определяя, что можно писать или говорить, а что — нельзя.

Пожалуй, настало время говорить о проблеме «свободы от тиражированного слова». Например, эффект шахтерских акций протеста был многократно усилен с помощью ТВ и газет. Об этом Ельцин потом поговорил с руководителями телеканалов и их владельцами отдельно, — у себя в кабинете.

**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

*Политического процесса не получилось*

# Суд назвал чучело президента мусором

Необычное решение принял на днях суд в Самаре — одном из областных центров на Волге. Деяния двух горожан, своеобразно протестовавших против действий главы государства, судья признал мелким нарушением общественного порядка.

Дело было так. На первомайский митинг оппозиции, проходивший на центральной площади города, член КПРФ Наталья Морозова пришла с жутким чучелом, на котором было написано «Ельцин». Когда митинг подходил к концу, Морозова решила чучело сжечь. Помогал ей в этом Сергей Стребков, преподаватель одного из местных вузов.

— Президентское чучело долго не хотело разгораться, — рассказывал потом Стребков, — и я решил помочь своей знакомой. После нескольких манипуляций оно ярко вспыхнуло. Я постоял некоторое время возле костерка, потом бросил туда окурок, плюнул и громко воскликнул: «Эх, скорей бы!».

Все это происходило на глазах многочисленного милицейского оцепления, но никто из охранников не сказал ни слова. Митинг закончился, и все отправились домой. Тут-то нас и повязали. Без каких-либо объяснений продержали в изоляторе временного содержания почти девять часов. На 12 мая нас вызвали повесткой в суд.

Готовясь к суду, я придумал пламенную речь, чтобы превратить все в политический процесс. Но ничего не вышло. Как объяснил судья, вся наша вина состояла в сжигании мусора в общественном месте. Говоря об этом, судья подчеркнул, что «после такого сжигания остается пепел, который загрязняет родной город».

А в этом мы действительно виноваты, ведь от «президента» осталось много пепла. Поэтому на следующий митинг вместе с чучелом мы принесем совок, метлу и урну для золы.

*«Общая газета»*

# Адамкусу придется жить на границе с Беларусью

*Иначе там будут очереди*

Президент Литвы Валдас Адамкус, выступая в прошлую пятницу на конгрессе ассоциации автоперевозчиков, отметил, что Литва как нельзя лучше использует свое географическое положение.

По словам президента, *«Литва по объему грузов, перевозимых дорожным транспортом, опережает не только Латвию, Эстонию и Финляндию, вместе взятых, но даже Россию».* Однако главе государства пришлось посетовать на работу пограничных и таможенных служб. В.Адамкус заметил, что недавно ему самому пришлось пересекать границу, однако как только он приехал — длинющие очереди мгновенно рассосались. «Неужели мне придется президентуру перенести на границу с Польшей или Беларусью?» — пошутил (или, может, сказал всерьез?) президент.

Он также призвал журналистов быть критичными по отношению к президентской политике — невзирая на то, что так называемый «медовый месяц» (первые сто дней президентства) еще не закончился.

*ELTA*

# «Пазбягай выпадковых кантактаў...»

*Пра Беларусь зноў гаварылі ў Бундэстагу*

Бундэстаг — федэральны парламент Германіі — правёў спецыяльныя слуханні (т.зв. «актуальную гадзіну»), дзе парламентарыі рэзка крытыкавалі сустрэчу прэм'ер-міністра зямлі Ніжняя Саксонія Герхарда Шродэра з прэзідэнтам Лукашэнкам у рамках Гановерскага кірмашу. Рэдакцыя НАВІНАЎ атрымала падрабязную стэнаграму гэтага паседжання.

У сваіх выступах нямецкія парламентарыі гаварылі пра афіцыйную палітычную лінію Еўрапейскага Саюза ў адносінах да Беларусі, выказаную ў заяве Савета ЕС ад 15 верасня 1997 года. Пакуль афіцыйны Мінск не зробіць канкрэтных крокаў да аднаўлення парламенцкай дэмакратыі, падзелу ўладаў і свабоды слова, узаемаадносіны будуць моцна абмежаваныя. Рашэнне ЕС падтрымаў у мінулым годзе і нямецкі Бундэстаг. Федэральныя ўлады ФРГ рэкамендуюць афіцыйным асобам пазбягаць палітычных кантактаў з прэзідэнтам Лукашэнкам. У Еўрапейскім Саюзе пануе перакананне, што прынятае раней рашэнне Савета ЕС павінна дзейнічаць у поўным аб'ёме.

Прадстаўнік буйнейшай парламенцкай фракцыі ХДС-ХСС (Хрысціянска-дэмакратычны саюз — Хрысціянскі сацыяльны саюз) доктар Фрыдберт Пфлюгер у чарговы раз назваў прэзідэнта Лукашэнку «беларускім дыктатарам» і «апошнім нашчадкам Сталіна» — гэтыя азначэнні ў Еўропе ўжо сталі звычнымі. Ф.Пфлюгер прыгадаў інтэрв'ю, у якім беларускі прэзідэнт заявіў, што Гітлер стварыў нямецкую дзяржаву праз моцную прэзідэнцкую ўладу і гэта адлавядае «нашаму ўяўленню» пра ролю прэзідэнта.

Па словах дэпутата, Лукашэнка з'яўляецца добрым партнёрам для Фрая (вядомы нямецкі ультранацыяналіст) і Жырыноўскага, але ні ў якім разе не для Шродэра, які прэтэндуе на пасаду канцлера на наступных выбарах у ФРГ.

Сваю сустрэчу з прэзідэнтам Лукашэнкам сам Г.Шродэр назваў «інфармацыйнай» і «прыватнай». Аднак, па словах дэпутата Герда Попэ (фракцыя зялёных), гэтым спатканнем дыктатар з Беларусі спрабаваў дабіцца палітычнага прызнання праз афіцыйных прадстаўнікоў ФРГ, што моцна нагадвае колішнія «абмены ветлівасцю» заходнегерманскіх палітыкаў з Эрыхам Хонэкерам, кіраўніком камуністычнай ГДР.

Сацыял-дэмакрат Гюнтэр Ферхойген заявіў, што толькі пасля пачатку ў Беларусі дэмакратыі, прававых і рынкавых рэформаў стане магчымым больш цеснае супрацоўніцтва з нямецкім бізнесам. *«Беларусь павінна паводзіць сябе па-іншаму ў плане правоў чалавека і дэмакратыі,* — сказаў парламентарый Ульрых Ірмэр (фракцыя свабодных дэмакратаў). — *Яна павінна захоўваць прынцыпы, якімі кіруюцца краіны Еўропы».* На думку парламентарыя Карстэна Фойгта, сустрэча Г.Шродэра з Лукашэнкам — рэч чыста *«дыпламатычна-пратакольная».* А сваё прынцыповае стаўленне да сітуацыі ў Беларусі Г.Шродэр паказаў на партыйным з'ездзе ў Гановеры, дзе выступаў разам з М.Статкевічам, адным з лідэраў дэмакратычнай апазіцыі ў Мінску.





*Лідэру нямецкіх сацыял-дэмакратаў Г.Шродэру давялося апраўдвацца перад парламентарыямі. Простыя немцы выказваюць сваё стаўленне не з трыбуны, а праз карыкатуры (у пары голых гумовых баксёраў ён злева).*

Дэпутат Крыстыян Шміт назваў сустрэчу на Гановерскім кірмашы вельмі шкоднай, бо яна была скарыстаная дзяржаўнай прапагандай у Мінску. Пан Шміт распавёў нядаўнюю гісторыю: беларускія дыпламаты дабіваліся аўдыенцыі для Лукашэнкі ў прэм'ер-міністра Баварыі Эдмунда Штойбера. Пасля кансультацыі з Бонам Э.Штойбер адмовіўся ад кантактаў з дыктатарам. Па словах дэпутата Андрэаса Краўтшайда, учынак Г.Шродэра быў *«цынічным у адносінах да беларускіх грамадзянаў».*

Прамоўцы ў нямецкім парламенце адзначалі, што цяжкое палітычнае становішча ў Беларусі яшчэ ўзмацняецца эканамічнай сітуацыяй, якая пагаршаецца з кожным днём. Арганізацыям, якія займаюцца гуманітарнай дапамогай, улады ствараюць усё больш адчувальныя перашкоды. Дэпутат Герт Вайскірхен, падводзячы своеасаблівы вынік дыскусіі, адзначыў, што *«інвестары ў эканоміцы, урэшце, сутыкаюцца з тымі ж праблемамі, што і людзі ў палітыцы. Бо свабода – адна, яна непадзельная».*

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

*КУРЬЕЗЫ*

# В Москве совсем озверели

**Положение русскоязычных жителей Латвии, оказывается, вызывает в России тревогу и у братьев наших меньших.**

Поддержать старинную русскую традицию — «ни субботы без пикета у латвийского посольства» в Москве собрались дрессированные удавы, мартышки, попугаи, а также другие работники культуры. «Зверский пикет» возглавляла известная дрессировщица Наталья Дурова.

Плакат «Нет фашизму в европейском доме» явно мешал животным прогуливаться перед посольским фасадом. В общем и целом по своему социально-правовому статусу пикетирующие звери напоминали персонажей легендарного мультфильма «38 попугаев». Почему не привели слоненка, выяснить не удалось.

**Вера МАКРОМЕНКО,** *BNS*

# Большой киномарафон

**Кинофестивали следуют один за другим. Не успел отшуметь праздник кино в Канне, а сегодня в Сочи пройдет торжественная церемония открытия российского «Кинотавра».**

Первым свои призы вручит главный киновед России Б.Ельцин — трем выдающимся актерам Элине Быстрицкой, Вячеславу Тихонову и Алексею Петренок. Каждый из них получит по хрустальной вазе. Что же касается других наград, то об их обладателях станет известно только на закрытии «Кинотавра» 13 июня. Жюри во главе с известным кинодраматургом Рустамом Ибрагимбековым отсмотрит 19 лент, в том числе фильм «Хрусталев, машину!» Алексея Германа, который блистательно провалился в Канне.

## Против Голливуда

Когда злобная пресса нападала на постсоветских режиссеров, что снимают они только друг для друга, режиссеры прощали ей эти обидные слова — они-то знали, что снимают не только друг для друга, но и для Канна. «В Канн, в Канн», — пели они, приступая к съемкам. А все потому что Каннский фестиваль был, есть и будет главным кинофестивалем мира. Просто попасть в Канн — не победить, а получить возможность показать свой фильм, — уже достижение для любого кинематографиста. И неважно, что Канн — это коммерческий пафос, ксенофобия, буржуазность. Ведь Канн — высший свет кино. Из морского климата, солнца, светских аутов и высокой моды французам удалось создать увлекательную игру, за которой каждый год с интересом следит весь мир.

Канн, как и положено одному из самых престижных курортов Старого Света — законодатель мировой моды, причем не только в кино. Французский фестиваль проходит через два месяца после вручения статуэток «Оскара» и начисто вычеркивает из памяти детали американской церемонии. Впрочем, в Канне всегда много американцев, но все они — и личности, и фильмы — представляют не Голливуд, а независимое американское кино.

## Мода этого сезона

Каждый год, просматривая картины в Канне, можно определить кинематографические тенденции года. В этом году доминировали «физиологические» темы. Многие фильмы с документальной точностью показали всю жизнь человека. Эти же темы присутствуют и в картинах о людях убогих и безумных. Так, голландец Рольф де Хеер в фильме «Танцуй под мою песню» показал историю любви здорового мужчины к больной церебральным параличом, причем главную роль исполняла действительно больная женщина. В фильме Хела Хартли «Генри Фул» умственно отсталый герой меняется местами с хозяином квартиры. А фаворит фестиваля Ларс фон Триер представил фильм «Идиоты», где с невероятными физиологическими подробностями показаны приключения людей, договорившихся выдавать себя за сумасшедших. Ларс фон Триер, видимо, хочет сказать, что у киноискусства нет никаких границ. Тема аномалий разрабатывается и в фильме россиянина Алексея Балабанова «Про уродов и людей». Фильм Балабанова очень красив в визуальном отношении, но воспринимается он как фантазия больного человека: Балабанов представляет кинематограф как дьявольское изобретение, а Россию — как страну уродов.

**Анна РЫЖОВА**

# Віялета, якая іграла на раялі

*Незвычайны лёс опернай спявачкі*

Насуперак даволі распаўсюджанаму меркаванню, што оперныя спевакі абавязкова павінны мець мажную постаць і амаль пенсійны ўзрост, на сцэне акадэмічнага опернага тэатра ў Мінску пяюць не толькі мэтры. Спявачка **Таццяна Трацяк** нядаўна выступіла з партыяй Віялеты ў оперы Дж.Вердзі «Травіята» — гэта адна з самых важных партый опернага рэпертуару. У Таццяны незвычайны творчы лёс, і з гэтага мы пачалі гаворку са спявачкай.



*Таццяна Трацяк у ролі Віялеты.*

— Мяне нярэдка пытаюцца — як здарылася, што ў мяне не адна, а адразу дзве музычныя спецыяльнасці. Што ж, тут ніякага сакрэту няма: я спачатку стала канцэртмайстрам, а ўжо потым — опернай спявачкай. Штo да спеваў, дык гэта я любіла заўсёды, з самага дзяцінства. І з ахвотай займалася музыкай. Але маім педагогам чамусьці падалося, што іграю я лепш, чым пяю. Вось і атрымалася, што пасля кансерваторыі і аспірантуры я стала працаваць канцэртмайстрам.

Паварот лёсу, відаць, звязаны з тым, што на працу я трапіла ў оперу, дзе з'явілася магчымасць паспрабаваць сябе ў якасці спявачкі. Вось і прыйшла зноў у кансерваторыю, мяне прынялі адразу на другі курс. Яшчэ пяць гадоў вучобы — і цяпер я салістка Беларускай оперы.

**— За два сезоны работы гледачы ўбачылі вас у ролях Паміны ў «Чароўнай флейце» Моцарта і Прынцэсы ў дзіцячай оперы «Чароўная музыка» А.Мінкіна. Вы таксама выконваеце сола ў вакальна-харэаграфічнай імпрэзе «Карміна Бурана». Партыя Віялеты — ужо чацвёртая ў вашым рэпертуары. Многа гэта ці мала?**

— Лічу, што ў нашым тэатры мяне не абыходзяць увагай. Чатыры работы за два сезоны — даволі многа. Да таго ж гэта яшчэ не ўсё — у хуткім часе я буду спяваць у оперы М.Мусаргскага «Барыс Гадуноў» — Ксенію, адзіную ў гэтай оперы партыю сапрана. На восень у нас запланаваная прэм'ера — «Вэксаль на шлюб» Дж.Расіні, і я таксама буду спяваць у гэтай пастаноўцы.

**— Вы толькі пачынаеце оперную кар'еру. Ці ёсць у вас запаветная мара, роля, якую вельмі хацелася б выканаць?**

— Мне ўжо моцна пашанцавала: я выконваю партыю Віялеты, а гэта адна з «пікавых» — самых складаных і самых цікавых — партый сапрана ва ўсім оперным мастацтве. Многія спявачкі толькі мараць, каб выйсці на сцэну ў вобразе Віялеты, а я ўжо зрабіла гэта.

**— Вы атрымалі дыплом міжнароднага конкурсу — гэта поспех і прызнанне за мяжой. Не ўзнікае жадання папрацаваць у Еўропе?**

— Гэтага хочацца ўсім. Праўда, каб трапіць на работу за мяжу, трэба мець своеасаблівы «першапачатковы капітал» — і аднаго конкурсу тут мала. Калі б у мяне была такая магчымасць, то я б з радасцю падпісала кантракт. Аднак не думаю, што магла б з'ехаць назаўсёды — па-першае, я больш люблю свой дом, чым рамантыку падарожжаў, а па-другое — заходняя ўмовы працы, як вядома, больш жорсткія, чым нашыя. У кожным разе, там нікога не хвалююць твае асабістыя праблемы, хваробы. Вось яна — канкурэнцыя.

**— А тут, дома, хіба канкурэнцыі няма?**

— І тут таксама ёсць канкурэнцыя, але не такая моцная. А ўвогуле канфлікты, незадаволенасць, інтрыгі — неад'емная частка тэатральнага жыцця. Праўда, мяне асабіста ўсе гэтыя справы не вельмі закранаюць.

**— Каго з нашых оперных салістак вы лічыце сваімі канкурэнткамі?**

— Вы маеце на ўвазе спявачак аднаго са мной голасу? Я не лічу іх сваімі саперніцамі. Я выходжу на сцэну зусім не для таго, каб некага перамагчы. Калі спевакі — творчыя асобы, публіцы будзе цікава ўбачыць работы кожнага, нават прыйсці некалькі разоў на адзін і той жа спектакль — з рознымі выканаўцамі. Гэта будуць розныя мастацкія вобразы, розныя ўражанні, амаль што розныя спектаклі. Кожная спявачка перш за ўсё імкнецца выказацца, адкрыць сябе саму, а зусім не заткнуць некага іншага. Зрэшты, так паступаю я, для мяне галоўнае на сцэне — творчасць.

*Гутарыла*
**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

# К чему стремятся меценаты

Музей Гуггенхейма в Нью-Йорке, одно из самых знаменитых собраний современного искусства, получил щедрый денежный дар — 50 млн. долларов. Вообще-то музеи чаще получают от меценатов в подарок произведения искусства, иногда — коллекции картин. Время от времени поступают некоторые суммы. Но пятьдесят миллионов!.. Со времени основания в 1937 г. музея Гуггенхейма такого еще не было.

Существование музеев и других культурных учреждений на Западе немыслимо без поддержки меценатов. Кто они и что стоит за их щедрыми жестами?

## Трезвый расчет

Питер Льюис уже пять лет — член попечительского совета Музея Гуггенхейма. Это — хобби. А работа у него более прозаическая — председатель совета директоров страховой компании в Кливленде. Просвещенные богачи любят искусство... Питер Льюис в прошлом году подарил музею 10 миллионов, в нынешнем — еще 40 миллионов долларов.

И он не одинок. Председатель попечительского совета Музея Гуггенхейма Дональд Перельман, возглавляющий также совет директоров косметической компании *Rewlon*, подарил вот музею 20 млн. долларов, затем, под влиянием широкого жеста Льюиса (видимо, завидно стало), еще 5. Другие попечители добавили 8 миллионов...

Что заставляет людей отдавать миллионы на нужды музеев, как это делают Льюис, Перельман и еще десятки «акул бизнеса»? Только ли «души прекрасные порывы», или еще и другие, более земные инстинкты?

Конечно, филантропия — богоугодная деятельность. Библия учит нас быть щедрыми. Особенно богатых, которым есть чем поделиться. Но за благотворительностью стоит и трезвый расчет.

Средства, истраченные на благотворительные цели, в США (как и во многих других западных странах) можно списать при уплате налогов. Филантропы, творя благие дела, фактически дарят деньги, со значительной частью которых все равно пришлось бы расстаться.

Репутация благодетеля человечества льстит тщеславию, но она еще и полезна для дела. Никакая коммерческая реклама не в состоянии создать богачу тот благородный имидж, какой создает филантропия. Фирма, знаменитая щедрой благотворительностью, при прочих равных имеет неоспоримое преимущество: к ней доброжелательно относится публика.



*Актриса Элизабет Тейлор и певец Майкл Джексон — весьма скандальные особы. Хорошую репутацию они также зарабатывают, делая крупные подарки искусству.*

И потому, к примеру, компания *Philip Morris* всегда щедро жертвовала на культуру, искусство, развитие спорта, стремясь нейтрализовать негативную репутацию изготовителя «яда» — табачных изделий. Правительство США, желая оградить молодежь от табака, недавно в законодательном порядке ограничило сферу благотворительности табачных компаний, чтобы в программках концертов, балетных представлений, спортивных зрелищ не фигурировало имя спонсора — *Philip Morris*. Вот парадокс: от таких ограничений пострадали культура, искусство, спорт... Зато, возможно, сократится число курящих подростков.

## О вечности, о славе...

И все же меценат вкладывает деньги скорее не в достижение сиюминутных целей, но в создание прижизненной и загробной славы. Праведные дела останутся в веках...

На корпусах колледжей, на стенах научно-исследовательских и культурных учреждений, на дверях университетских аудиторий часто увидишь имена тех, кто отписал деньги этим учреждениям и чьим именем эти корпуса и аудитории названы. Сделка обоюдовыгодная: музеи, лаборатории, университетские кафедры получили необходимые средства, богачи купили бессмертие. Сеть учреждений, созданных для передачи этих средств, составляет обширнейшую инфраструктуру. В тысячах благотворительных фондов работают десятки тысяч экспертов и административно-технических сотрудников, к ним обращаются ежегодно за грантами сотни тысяч соискателей и организаций. Затевая любое творческое дело, его организаторы прежде всего озабочены тем, кто и сколько теоретически может выделить им денег. Адреса, сведения о фондах сведены в толстенные ежегодники и справочники. Есть и люди, специализирующиеся на выбивании средств у филантропов. Они обладают особым талантом убеждения — и их охотно приглашают на работу в те организации, которые живут за счет перераспределения благотворительных средств.

Мне довелось общаться с одним из таких мастеров по выбиванию денег, с Питером Маккарти из Фонда американских коммуникаций в Лос-Анджелесе. Знаток душ, опытный оратор, он своим красноречием способен расшевелить самого недоверчивого и осторожного из богачей, убедив в необходимости расстаться с деньгами. И его главный документ — увековечение имени, память потомков.

## Тоже бизнес

Филантропия, и в частности меценатство, покровительство культуре и искусству, стали в Америке важной народнохозяйственной сферой.

Основные средства, расходуемые на благотворительность, сосредоточены у богатых людей. Сколько богачей в Америке? В 1989 г. насчитывалось три миллиона миллионеров. Спустя семь лет число людей, располагающих состоянием в миллион и больше, выросло до 4,1 млн. Это и есть база филантропии. (Правда, полагают, что «хорошая жизнь» в Америке начинается с 25 миллионов — если доход семьи ниже, она считается не богатой, а всего-навсего «обеспеченной»).

В 1990 г. американцы пожертвовали на «творение благ» 111,5 миллиарда долларов, в 1996 г. — 151 миллиард.

**Владимир ВОЙНА**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1192 Нумар падпісаны ў друк 01.06.98 (15:00) Наклад — 18.550